# Газета Слонімская

*Газета заснавана ў 1938 годзе. Аднаўлена ў 1997 годзе.*

№ 32 (113). 5 — 11 жніўня 1999г. **Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік. Распаўсюджваецца ў Слоніме, Зэльве, Дзятлаве, Мастах.** Кошт 30.000 руб.





Фота Мікалая СУПРУНА

*Экіпаж «Нівы»: Яўген Альбяртовіч і Аляксандр Юрчык з калгаса «Чырвоная зорка»*

## НАВІНЫ

### Татарская моладзь збярэцца ў Слоніме

**14 жніўня ў Слоніме пад дэвізам "Захаваем веру і традыцыю ў новым стагоддзі" пройдзе з'езд татарскай моладзі Беларусі.**

По словах старшыні слонімскай арганізацыі Беларускага аб'яднання татар-мусульман "Аль-Кітаб" Сулеймана Байрашэўскага, праграма з'езда ўключае правядзенне канферэнцыі. У Слонім прыедзе татарская моладзь з усёй Беларусі, а таксама госці з Польшчы і Літвы. Напярэдадні з'езда слонімскія татары адзначаць пяцігоддзе адраджэння мясцовай мячэці.

**Сяргей ЁРШ**

### Першыя 10 тысяч тон

**Слонімскі камбікормавы завод плануе прыняць сёлета ад гаспадарак Слонімскага і Зэльвенскага раёнаў 29 тысяч тон збожжа.**

Як паведаміў карэспандэнту "ГС" намеснік дырэктара завода Міхаіл Хрэшчык, на 2 жніўня калгасы і саўгасы Слонімскага раёна здалі дзяржаве 4815 тон зерня, а Зэльвенскага — 5279 тон.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

## Слонімская ДАІ — лепшая ў вобласці

Першае месца ў вобласці заняло аддзяленне ДАІ слонімскага ГРАУС па выніках працы за першае паўгоддзе 1999 года.

Статыстыка сведчыць пра зніжэнне колькасці дарожна-транспартных здарэнняў на дарогах Слонімскага раёна (іх было 16). За гэты перыяд выяўлена 20137 парушэнняў правілаў дарожнага руху. Сярод іх — 3949 выпадкаў перавышэння дазволенай хуткасці, 906 — неправільнага праезду скрыжаванняў і правілаў абгону. У 22 выпадках вадзіцелі кіравалі транспартам, не маючы на гэта права. 330 вадзіцеляў супрацоўнікі ДАІ затрымалі ў нецвярозым стане за рулём.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

## ЗДАРЭННІ

### Вадзіцелю "Запарожца" пашанцавала

**Днямі ад замыкання электраправодкі загарэўся аўтамабіль "Запарожац", які ехаў праз вёску Міжэвічы Слонімскага раёна.**

Загаранне здарылася побач з мясцовым пастом пажаратушэння, супрацоўнікі якога выратавалі аўтамабіль.

### Хлопчык знайшоў запалкі...

**6-гадовы Руслан Д., які прыехаў на летні адпачынак да бабулі ў вёску Баяры Слонімскага раёна, гуляючы з запалкамі, падпаліў сена ў хляве суседа Івана Малаша.**

Пажарныя, якія дзяжурылі непадалёку на калгасным полі, хутка патушылі агонь.

### Памёр на рыбалцы

**Днямі на беразе Шчары памёр слонімец, які вудзіў рыбу.**

Наведвальнікі гарадскога пляжа звярнулі ўвагу на мужчыну, які доўгі час сядзеў нерухома з вудай у руках, і паведамілі аб гэтым у міліцыю.

### Ноччу трэба спаць

**Днямі ў міліцыю з заявай звярнуўся жыхар Гродна Р.**

Ён прыехаў у госці ды слонімскіх сваякоў, і паведаміў, што апоўначы на тэрыторыі СШ №2 яго адлупцавалі невядомыя мужчыны.

### Угналі тры іншамаркі

**На мінулым тыдні ў Слоніме невядомыя злодзеі за адну ноч укралі тры іншамаркі.**

У гаражным кааператыве "Заазёрны" наўмыснікі зламалі дзверы ў гаражах слонімцаў Ч. і Л. і ўгналі "Аўдзі-100" і "Фольксваген-Пасат". А ад дома №18 на Шасэйнай вуліцы ўгнаны аўтамабіль "Фольксваген-Джэта".

### Не разгубілася...

**Не змагла памыцца ва ўласнай лазні жыхарка вёскі Талькаўшчына Слонімскага раёна Ніна С.**

Толькі запаліла яна печ у лазні, як будынак нечакана загарэўся. Але жанчына не разгубілася і разам з дачкой стала тушыць пажар. Калі прыехалі пажарныя, агонь ужо быў патушаны.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

### Агурок за агуркі

**Чалавечае жабрацтва вымушае папаўняць свой бюджэт самым простым чынам — злалзействам.**

Летам вабяць лецішчы. Хоць з агарода асабліва не разбагацееш, але яго не абмінаюць наведаць аматары чужога. Гаспадары абараняюцца як могуць, а калі кагосьці зловяць, дык чыняць самасуд.

За такую справу быў злоўлены грамадзянін К. на адной з дач паблізу Мастоў. Пакаранне было хуткім і жорсткім. Пакаралі тым, што краў. Гаспадары засунулі ў адно месца чалавеку агурок. Некалькі гадзін спатрэбілася медыкам, каб правесці аперацыю.

### Пайшла і не вярнулася

**70-гадовая жыхарка вёскі Дашкаўцы Мастоўскага раёна месяц таму пайшла з дому на агарод, але да сённяшняга дня не вярнулася.**

Пошукі ніякіх вынікаў не далі.

**Антон МАКЕЙ**

### "Аператыўнае рэагаванне"

**Мастоўскі райвыканкам прыняў пастанову "Аб папярэджанні гібелі людзей на вадзе".**

Падставай для прыняцця такога рашэння паслужылі чалавечыя ахвяры: у чэрвені ў вадаёмах раёна патанулі тры чалавекі, а з 11 па 17 ліпеня — шэсць, з іх трое дзетак. Напрыканцы лета, калі ўжо адбыліся трагедыі, чыноўнікі плануюць правесці шэраг мерапрыемстваў, а таксама паставіць шчыты са словамі "Купанне забаронена".

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

## У "ЧЫРВОНАЙ ЗОРЦЫ" ХУТКА ДАЖЫНКІ

Галоўны аграном калгаса "Чырвоная зорка" Міхаіл Лойка паведаміў карэспандэнту "ГС", што сёлета ўраджайнасць збожжа ў калгасе ніжэйшая, чым летась, і складае ўсяго 21,7 цэнтнера з гектара. Крыху лепш урадзіў ячмень, якога намалочваюць 23,7 цэнтнера з гектара.

— Але думаю, што планавыя 850 тон зерня мы намалоцім — сказаў Міхаіл Мікалевіч. — Ужо каля 800 тон жыта і ячменю дастаўлена на зерняток, а больш як 174 тоны здадзена дзяржаве.

З яго слоў стала вядома, што першынства па жніву ў гаспадарцы трымае экіпаж Аляксандра Міхальчыка, на рахунку якога 242 тоны намалочанага збожжа. Дзевяты сезон выводзіць у поле свой "Дон-1500" Аляксандр Фаміч. Разам з ім на жніве працуюць яго сыны Ігар і Сяргей.

Не паспеў камбайн Аляксандра Міхальчыка зрабіць тры кругі па полі, як над машынай засвяціўся агеньчык мігалкі, паведамляючы аб тым, што бункер поўны. Праз некалькі хвілін кузаў аўтамабіля "ЗІЛ", якім кіруе Мікалай Токараў, запоўніўся залацістым ячменем. Мікалай даставіў з поля на збожжаток 324 тоны зерня і трымае першынства сярод вадзіцеляў гаспадаркі.

Наведалі мы і збожжаток, дзе старэйшы машыніст КЗС-10 Васіль Брайчук і яго памочнік Аляксандр Брайчук сушаць зерне і адпраўляюць яго на збожжапрыёмны пункт у Слонім. Цёплыя словы пра іх працу сказаў галоўны інжынер калгаса Мікалай Балтрушка. А напрыканцы нашай сустрэчы Мікалай Паўлавіч паведаміў, што на калгасным млыне, які знаходзіцца ў вёсцы Высацк, адноўлены агрэгаты па вырабу ячменнай крупы і дзвюх гатункаў пшоннай мукі.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

## ТЭХНІКУ ПАБАЧЫЎ, ЛЮДЗЕЙ — НЕ

На мінулым тыдні, пад час паездкі па Гродзеншчыне, прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка наведаў Мастоўшчыну. Ён пабываў у саўгасе "Чарлёна", дзе яму паказалі, як жнуць камбайны. Мясцовыя ўлады старанна падрыхтаваліся да прыезду Аляксандра Рыгоравіча. На сорак метраў па абодва бакі шашы ўсё было зжата, а там, дзе расла прыватная бульба, скасілі нават лебяду. У мястэчку Лунна супрацоўнікі КДБ загадалі зафарбаваць бел-чырвона-белы сцяг, што быў намаляваны на воданапорнай вежы год назад. Для гэтай справы міліцыя адшукала былога зэка, але ў таго аказаліся кароткія рукі, давялося шукаць даўгарукага.

На сцяне аўтастанцыі надпіс "Жыве Беларусь!" замалёўваць не сталі — тэрмінова трэба было рабіць рамонт усяго будынка, бо там былі яшчэ напісаны і брыдкія словы. У вёсцы Масты Правыя былі замаляваныя антыпрэзідэнцкія лозунгі на сценах гандлёвага цэнтра, напісаныя год назад.

Паказаць як працуе тэхніка было вырашана на асобным участку гатункавай пшаніцы. Гэты ўчастак знаходзіцца каля вёскі Грушаўка, дзе месціцца спецкамендатура. У ёй, як правіла, адбываюць пакаранне старшыні калгасаў ды іншыя дробныя начальнікі, якіх злавілі за злалзейства.

У дзень прыезду Лукашэнкі непадалёку ад дарогі, па якой ён павінен быў ехаць, калгаснікі сціртавалі салому. У адзінаццаць гадзін раніцы да іх падышоў міліцыянер і загадаў: "На сёння ваша праца скончылася. Ідзіце дахаты адпачываць". Затым на кожнай развілцы дарогі было пастаўлена па міліцыянеру. І калі жыхары Лунна вырашылі падысці да шашы, каб павітаць прэзідэнта, іх не пусцілі. Як толькі прэзідэнцкі картэж з машынамі наблізіўся да поля, па ўзмаху рукі аднаго з арганізатараў мерапрыемства, некалькі камбайнаў рознай вытворчасці ("Ягуар", "Бізон" і іншыя) распачалі жніво. Паказ тэхнікі працягваўся не болей пятнаццаці мінут, пасля чаго Аляксандр Рыгоравіч паехаў далей, а ўсім службам, якія былі задзейнічаны (медыкі, сувязісты, пажарнікі ды іншыя) паступіла каманда "Отбой".

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

НАША ІНТЭРВ'Ю

Казімір МАЦІЕВІЧ:

# "БІЛЕТ КАШТУЕ 10 ТЫСЯЧ, А Ў КІНО ЎСЁ РОЎНА НЕ ХОДЗЯЦЬ..."



**Цяпер у Слоніме фільмы паказваюць толькі ў кінатэатры "Мір" ды яшчэ дзейнічаюць кіналекторыі ў школах. У вёсках Слонімскага раёна з 52 кінаўстановак, якія яшчэ працавалі ў 1991 годзе, на сённяшні дзень засталіся толькі 22. Падобна на тое, што ленінскі выраз "З усіх мастацтваў важнейшым для нас з'яўляецца кіно" для нашага народа страціў сваю актуальнасць.**

Сёння аб праблемах кінапракату з карэспандэнтам "ГС" гутарыць Казімір Маціевіч, які ўжо 25 гадоў узначальвае слонімскую кінасетку.

***— Казімір Восіпавіч, якое кіно можа прапанаваць гледачам слонімскі кінапракат, і ці карыстаюцца тыя фільмы папулярнасцю?***

— На жаль, добрых фільмаў нам паступае мала. У асноўным, гэта таннае амерыканскае кіно: дэтэктывы, баевікі. Такую прадукцыю людзі не вельмі хочуць глядзець.

***— Калі няма гледачоў, дык няма і грошай. На якія ж сродкі існуе ваша фірма?***

— Кінапракат у нашай краіне ніколі не быў рэнтабельным. Мы існуем на сродкі рэспубліканскага і мясцовага бюджэтаў. Але фінансаванне недастатковае. Таму нешта стараемся зарабіць самі: здаём у арэнду памяшканні кінатэатра, наладжваем камп'ютэрныя гульні для дзяцей, праводзім паказ відэафільмаў на шырокі экран. Дарэчы, відэафільмы карыстаюцца большым поспехам. На звычайны фільм білет каштуе 10 тысяч, а ў кіно ўсё роўна не ходзяць.

***— А хто ўстанаўлівае такія смешныя цэны на білеты — 10 тысяч?***

— Цэны ўстанаўлівае адпаведнае міністэрства. Мы ж прадпрыемства дзяржаўнае, і самастойна павысіць кошт білетаў не можам.

***— Ці даводзяць вам зараз "зверху" план?***

— Не, ніхто планаў нам ужо даўно не даводзіць. Колькі сабраць грошай — плануем самі, сыходзячы з рэальных магчымасцей той ці іншай кінаўстаноўкі. Калі кінамеханік прадасць білетаў, скажам, на большую суму, чым было запланавана на месяц, то атрымлівае прэмію.

***— А якую зарплату атрымліваюць кінамеханікі, ці працуюць яшчэ сярод іх ветэраны сваёй справы, і ці прыходзяць да вас працаваць маладыя?***

— Зарплата невялікая. Прыкладна, ад двух да пяці мільёнаў. Больш плаціць — фінансы не дазваляюць. Але ветэраны кінасеткі працуюць, хоць большасць з іх ужо на пенсіі. У Жыровічах 40 гадоў працуе кінамеханікам Вера Цвікевіч, у Міжэвічах 37 гадоў – Вольга Жолудзь, у Дзераўной 35 гадоў – Ігар Калюцік. Мой намеснік па тэхніцы Георгій Дабрыян таксама 40 гадоў жыцця прысвяціў нашай справе. А маладыя... Цяпер не той час, калі кінамеханікі патрабаваліся амаль у кожную вёску. Вучылішча ў Гродне ўжо не выпускае кінамеханікаў. Здаецца, у Мінску ў адной з навучальных устаноў набіраюць на вучобу толькі адну групу. Калі нам кудысьці патрабуецца кінамеханік, то мы самі яго рыхтуем з мясцовых жыхароў тут на месцы. Потым чалавек здае экзамены і – гатовы спецыяліст... А ўвогуле, кіно ўжо не тое, што было раней.

Гутарыў
**Мікола КАНАНОВІЧ**

ПРОБЛЕМА

# РАСТЁТ КОЛИЧЕСТВО НАРКОМАНОВ

**В Слониме за 10 лет на учёте в наркологическом диспансере зарегистрировано около 80 наркоманов. На сегодняшний день, по словам врача-нарколога Григория Небоженко, всего лишь четыре человека из этого числа воздерживаются от употребления наркотиков.**

У одного из них, не стоящего, правда, на учёте в наркологическом диспансере, корреспонденту "ГС" удалось узнать, как он стал наркоманом. Его зовут Олег, ему 21 год:

"Впервые я стал колоться на зоне в 17 лет. Это был опиум, друзья предложили. Сначала немного вводил, но с каждым днём доза возрастала. Вообще-то наркотики дорого стоят — 1 грамм героина — 100-120 долларов, 1 грамм кокаина — 200-300 долларов, да и за эти деньги их очень трудно достать... Когда по телевизору показывают наркоманов, которые заявляют, что вылечились — не верьте никогда. От этого полностью не избавишься, можно, конечно, "завязать" на год или два, но потом снятся сны про то, как ты колешься – и всё начинается заново... Жалко, что в Слониме нет пункта обмена шприцев, ведь наркоманов в городе хватает."

Специалисты утверждают, что если 7% населения употребляют наркотики, то страна стоит на пороге безвозвратной погибели. В Республике Беларусь на 1 января 1998 года на учёте в наркологическом диспансере состояли 3549 официально зарегистрированных наркоманов, но, по мнению большинства экспертов, количество наркоманов в 10 раз больше. Их число увеличивается на 1,5 тысячи ежегодно.

**Ольга ШИНКЕВИЧ**

ПУТЬ К БОГУ

# СЪЕЗД ХРИСТИАНСКОЙ МОЛОДЕЖИ

**С 29 июля по 1 августа на лесной поляне рядом с альбертинским лесничеством проходил шестой республиканский слет христианской молодежи белорусского отделения всемирной Церкви Христиан Адвентистов Седьмого Дня.**

На слет приехали более 200 молодых людей из разных городов и селений Беларуси. Адвентистская молодежь не только хорошо отдохнула на гостеприимной слонимской земле, но и прошла несколько курсов обучения по психологии семейной жизни, по воспитанию, общению до брака и в браке.

Семинары по психологии общения юношей и девушек провела директор отдела детского и семейного служения Евро-Азиатского отделения Генеральной конференции церкви Адвентистов Седьмого дня, преподаватель Заокской Духовной академии Лидия Нейкурс, приехавшая на слет из Москвы. Совместно со слушателями были рассмотрены вопросы, как устанавливаются волшебные узы супружества и каким образом их можно сохранить на всю жизнь. Кроме того, были проведены и другие семинары.

Молодежь отдыхала, жила в палатках, утром и вечером проводились богослужения. Особо торжественными были субботние богослужения, где рассматривались библейские вопросы, связанные с возрастом Земли, а также проповедь нравственно-воспитательного характера произнес руководитель белорусской Церкви Христиан Адвентистов Седьмого Дня Иван Островский из Минска.

На протяжении всех этих дней Господь даровал замечательную теплую и солнечную погоду. Не забыты были и игра в мяч, собирание грибов, осмотр Слонима и его окрестностей. Некоторые изъявили желание принять библейское крещение полным погружением в воду, а четыре человека заключили завет с Богом, приняв крещение на альбертинском озере. Это запомнится им на всю жизнь.

**Лилия СОСНОВСКАЯ,**
**участница шестого белорусского молодежного христианского слета**

# ДАВАЙТЕ ЖИТЬ ПО-БЕЛОРУССКИ

**Секретариат «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» (ТБМ) принял обращение к белорусским рабочим.**

Обращая внимание на ухудшение материального положения рабочих, авторы документа отмечают: «Так будет до тех пор, пока вы не вспомните, что вы – белорусы и что живете не где-нибудь, а здесь – в Беларуси». По мнению руководства ТБМ, государство изгнало белорусский язык из школ, фабрик и заводов для того, чтобы рабочие и их дети «не чувствовали себя хозяевами своей земли», а результаты их труда чтобы принадлежали не им, а «соседу», на языке которого «теперь определили жить и трудиться». Секретариат ТБМ призвал белорусских рабочих «жить, работать, говорить, учить своих детей по-белорусски, требовать этого от своего начальства и от властей Беларуси», ибо «возвращение к родному языку – это путь к независимости, а значит – путь к благополучию».

**БелаПАН**

ФЕЛЬЕТОН

# ПАНОВЕ, БУДЗЬЦЕ ПІЛЬНЫМІ!

Усё пачыналася так будзённа, што аж не хочацца расказваць. Але цярпенне, чытач. Потым будзе цікавей. Дык вось. Звычайнай летняй раніцай дарожныя будаўнікі збіраліся на далёкі аб'ект. Выязджаючы з пасёлка, курцы падумалі, што ім на ўвесь рабочы дзень можа не хапіць цыгарэт, і вырашылі спыніцца каля крамы, атаварыцца. Дзядзька Коля дыму не любіў, але ён, пачуўшы, што ў магазін неўзабаве прывязуць каўбасу, вырашыў сказаць аб гэтым дачцэ, якая жыла непадалёку. Пабег, а тая пасказдзілася:

— Малое ж няма з кім пакінуць. Як я пайду па тую каўбасу?

Пабег, папрасіў. Прыйшоў да магазіна, а машыны там ужо няма. І такая крыўда апанавала дзядзьку Колю, такая злосць апякла, што, здаецца, каб мог, наладзіў бы ўсяму пасёлку апошні дзень Пампеі.

— Гэта ўсё майстар вінаваты, ён, нягоднік, камандуе, калі ехаць, а калі спыняцца. А я ж з ім ладзіў! і такое ўтварыць, — пылаў гневам дзядзька Коля.

Ён пракручваў у галаве дзесяткі варыянтаў, як адпомсціць маладому майстру за такі здзек, так адпомсціць, каб ён меў што расказаць дзецям і ўнукам. І выбраў з усіх варыянтаў самы ўдалы, лепш за які і быць не можа. Дабраўшыся да тэлефона, дзядзька Коля набраў нумар 02 і сказаў у трубку:

— Грамадзянін такі і такі, які працуе майстрам там і там, украў на рабоце бетонныя слупы і даўно хавае іх у сваім гаражы. Прыязджайце раскрываць злачынства.

Пінкертоны не прымусілі сябе чакаць. Слупкі і сапраўды знаходзіліся ў гаражы. Злачынства было раскрыта. На майстра завялі крымінальную справу.

Дзядзька Коля цёр рукі ад задавальнення, а малады майстар чухаў патыліцу, як жа "аддзячыць" дзядзьку, бо такога "высакароднага ўчынку" ад свайго падначаленага ён не чакаў.

— Трэба паперці яго з работы па прычыне таго, што быў п'яны.

Дзядзька Коля і вокам не пасрэў міргнуць, як аказаўся за варотамі. Зноў закіпеў ён справядлівым гневам, тым больш, што ў той памятны дзень быў не п'яны, а вельмі нават цвярозы, і здзейсніў высакародны ўчынак у цвярозым стане. Да таго ж ён даведаўся, што дзень, калі чалавек аказваў праваахоўным органам дапамогу ў раскрыцці злачынтсва, не лічыцца прагулам, хоць ён у гэты дзень не стаяў ля станка, не пасвіў рагуляў, не будаваў мост праз рэчку. Так што да дзядзькі Колі няма за што прычапіцца. Ён перад законам чысты, як шкельца ў пракурорскіх акулярах. Таму падаў у суд, і яго аднавілі на працы.

А што да маладога майстра... Не адпомсціўшы дзядзьку Колю, а яшчэ больш нашкодзіўшы сабе, ён цяпер чакае суда. За раскраданне дзяржаўнай маёмасці і за злоўжыванне службовым становішчам па галоўцы не пагладзяць.

Вось так дзядзька Коля адстаяў свае правы, з гонарам выканаўшы грамадзянскі абавязак. Пільнасць, праяўленая ў адносінах да чужога гаражу і закансерваваная да патрэбнага часу, прынесла яму добры плён і пэўную славу. Так што, панове, будзьце пільнымі! Гэта дапаможа вам у складаных момантах жыцця паказаць начальніку ці суседу, дзе ракі зімуюць.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.97г.
Юрыдычны адрас: г.Слонім, Брэсцкая,109/12
Заснавальнік Віктар ВАЛАДАШЧУК
Намеснік рэдактара Сяргей ЧЫГРЫН

Адрас для пісем: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5.
Тэлефоны:
рэдакцыі............2-14-39
............(017) 210-87-17
аддзел рэкламы 2-49-39

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 4 жніўня 1999г.
Час падпісання 8:00.
Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

Падпісныя індэксы:
64042 (індывідуальная)
63818 (ведамасная)
Наклад 7.000 экз.
Заказ № 2092
© «Газета Слонімская» Спасылка на «ГС» абавязковая
Ⓡ Матэрыялы публікуюцца на правах рэкламы

E-MAIL:gs@irex.minsk.by HTTP://www.irex.minsk.by/gs

 



ПОШТА

# У АПТЭКУ З БУТЭЛЕЧКАЙ

Уявіце жыццёвую сітуацыю. Заходзіць інвалід ці проста пенсіянер у аптэку і падае аптэкару рэцэпт на лякарства. Але яму рэцэпт вяртаюць назад, тлумачачы, што ў аптэцы няма посуду для лякарства, якое прыпісваюць урачы."Прыходзьце са сваім посудам," — кажа аптэкарка. І састарэлы чалавек, які пабачыў шмат чаго на сваім вяку, узяўшы дрыжачай рукой рэцэпт, вяртаецца дамоў. А на другі дзень са сваёй шклянкай ці бутэлечкай зноў збіраецца ў райцэнтр у аптэку па пакутлівую "баўтушку".

Нарэшце гэтай праблемы напісаў я пісьмо ў беларускае вытворчае прадпрыемства "Фармацыя", што знаходзіцца ў Мінску на вуліцы В.Харужай, 11. Праз пэўны час атрымаў адказ ад генеральнага дырэктара гэтага прадпрыемства спадарыні М.Шалаевай. Яна піша, што ў "Беларусі склалася складанае становішча з забяспечаннем аптэк патрэбным посудам. Бо ён у нашай рэспубліцы не вырабляецца. Аптэкарскі посуд завозяць з Расіі і Украіны за валюту. А у нас валюты не хапае нават на набыццё жыццёванеабходных медыкаментаў, а таму аптэкі вымушаны карыстацца посудам, набытым у насельніцтва".

Вось так. Бутэлечнае пытанне аказваецца не такое ўжо простае. А калі ўлічыць яшчэ тлумачэнне генеральнага дырэктара "Фармацыі", што "пытанне аб арганізацыі вытворчасці аптэкарскага посуду для аптэк прапрацоўваецца на ўзроўні ўрада Рэспублікі Беларусь", дык, сапраўды, яно не такое і радавое. Але, на жаль, да сёняшняга дня так і не вырашана.

**Іван ЦІМАФЕЙЧЫК**,
жыхар вёскі Мадзейкі
Зэльвенскага раёна

**P.S.** Карэспандэнт "ГС" пазваніў у зэльвенскую аптэку, якая знаходзіцца на вуліцы Пушкіна. Там паведамілі, што бутэлечак у аптэцы няма, і каб атрымаць лякарствы, пацыенты павінны мець свой посуд.

Што датычыць слонімскіх аптэк, то тут такой праблемы не існуе.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

# МОХАДРАЛЫ



Лясы вакол вёскі Дзераўная Слонімскага раёна зрабіліся сапраўдным месцам паломніцтва падлеткаў і пенсіянераў. А прычына таму — лісічкі, за кілаграм якіх на прыёмных пунктах плоцяць па мільёну рублёў.

Дзеці рукамі, бабкі граблямі дзяруць у лесе мох у тых месцах, дзе знаходзяць адзін-два жоўтых грыбка. Староннняму чалавеку, які патрапіць у лес каля Дзераўной, здаецца, што нядаўна тут прайшло нашэсце дзікоў. Але чацвераногія землякопы не робяць столькі шкоды, як людзі, якія ў пагоні за заробкам нішчаць лясную мікрафлору.

**Аляксандр ЗІМНІЦКІ**

НАВІНЫ

## Фірменны магазін у Дзятлаве

**У Дзятлаве на вуліцы Кастрычніцкай адкрыўся новы магазін мясцовага сыраробчага завода.**

Тут у шырокім асартыменце прадстаўлены малочныя і каўбасныя вырабы.

## У дар музею

**Нядаўна Дзятлава наведаў ураджэнец раёна Іван Кец, які цяпер жыве ў Малдове.**

Ён палкоўнік у адстаўцы, член беларускай суполкі, што аб'яднала нашых землякоў, якіх лёс закінуў у Малдову. Іван Аляксандравіч піша вершы. Многія з іх надрукаваны ў калектыўных зборніках, выдадзеных тамтэйшым літаратурным аб'яднаннем. Тры кнігі ён перадаў у дар дзятлаўскаму гісторыка-краязнаўчаму музею.

## Таямніцу ведае Шчара

**У Шчары непадалёку ад вёскі Пархуты Дзятлаўскага раёна некалькі гадоў таму была знойдзена лодка, выробленая ў 16 стагоддзі.**

Гэты ўнікальны экспанат два гады назад хацелі выцягнуць з вады і даставіць у Дзятлаўскі краязнаўчы музей, аднак не далі рады. Шчара не хацела аддаваць свой скарб. Сёлета мінскія археолагі таксама прыехалі на бераг рэчкі, каб выцягнуць лодку, аднак яе там не аказалася. Ці занесла пяском лодку, ці змыла вадой — таямніцу ведае толькі Шчара.

## Юбіляр

**4 жніўня споўнілася 50 гадоў дырэктару Дзятлаўскага краязнаўчага музея Фёдару Красюку.**

Фёдар Федаравіч на гэтай пасадзе працуе амаль 15 гадоў. Шмат зрабіў і робіць дзеля адраджэння нашай мовы, культуры і гістарычнай спадчыны.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

## Декрет вытеснит профсоюзы

**Как заявил вице-президент Белорусского союза предпринимателей (БСП) Александр Потупа, подписание президентского декрета о дополнительных мерах по укреплению трудовой дисциплины приведет к сокращению возможностей профсоюзов по защите прав наемных работников.**

По мнению А.Потупы, предусмотренная декретом возможность перевода всех сотрудников на контрактную систему нивелирует институт коллективных договоров и приведет к тому, что профсоюзы попросту окажутся лишними в двусторонних отношениях работников и нанимателей.

Внедрение контрактной системы в условиях современной Беларуси, считает вице-президент БСП, целесообразно только для узкого круга высококвалифицированных специалистов. Заключение же контрактов со всеми работниками, в том числе занятых на не требующих квалификации работах, приведет только к тому, что наниматели будут навязывать работникам, прежде всего малоквалифицированным, невыгодные условия, а профсоюзы, о которых декрет даже не упоминает, окажутся лишенными возможностей защитить права трудящихся.

**БелаПАН**

## У БНФ кіраўніцтва пакуль не змянілася

**31 ліпеня-1 жніўня ў Мінску праходзіў VI з'езд Беларускага Народнага Фронту "Адраджэнне".**

Галоўным пытаннем, якое ён вырашаў, былі выбары новага кіраўніцтва арганізацыі.

Яшчэ задоўга да з'езда БНФ раскалоўся: адны сябры арганізацыі падтрымлівалі Зянона Пазняка, які ўжо тры гады знаходзіцца за мяжой, другія — "маладых рэфарматараў" Вінцука Вячорку, Віктара Івашкевіча і іншых. Менавіта апошнія імкнуцца дэмакратызаваць арганізацыю, пашырыць яе ўплыў на грамадства і павялічыць шансы на перамогу на выбарах.

У выніку, на з'ездзе не ўдалося выбраць новага старшыню БНФ: Вячорка і Пазняк падчас тайнага галасавання набралі прыблізна аднолькавую колькасць галасоў. Таму ў верасні-кастрычніку гэтага года пройдзе другая сесія з'езда БНФ, якая паспрабуе вырашыць, хто надалей будзе кіраваць самай буйной апазіцыйнай арганізацыяй.

На з'ездзе прысутнічала і дэлегацыя слонімскага БНФ у складзе трох чалавек. Па словах Івана Бедкі, падчас галасавання два дэлегаты ўстрымаліся, а адзін аддаў свой голас Пазняку. А вось дзятлаўскія фронтаўцы актыўна выступалі за змену кіраўніцтва БНФ.

**Сяргей ЁРШ**

ГУМАРЭСКА

# МАНЬЯК

Што робіцца, мае ж вы бабачкі, што робіцца! Я газеты чытаю, то ўсё ведаю. Раней і слоў такіх ніхто не чуў: рэкецір, кілер, або, во — маньяк. На вуліцу страшна выйсці з-за гэтых паршыўцаў. Асабліва маньякаў развялося, як камароў у алешніку. Кабет гвалцяць, каб яны папруцянелі. І не толькі маладых, але, кажуць, і такіх, як я. У гадах, словам. З-за гэтай свалаты і я нядаўна апяклася, нібы голы ў крапіве. На пенсіі я ўжо. Другі месяц. То першы месяц грошы прынеслі, а другі чакаю-чакаю — няма. Ужо ўся вёска атрымала, а мне не нясуць.Трэба, мяркую, у райсабес з'ездзіць, папытаць, якую трасцу яны там сабе думаюць, пенсію мне не плаціўшы.

Гэта сказаць лёгка, а даехаць — ого! Наша вёска Малыя Забэцькі — у лясной глушэчы. Да аўтобуснага прыпынку чатыры кіламетры і ўсё праз лес. А то, бывае, дойдзеш да суседніх Макрыц, а аўтобус той возьме і не прыйдзе. Паўзеш назад па бездарожжы, як сможуш па кары.

Ну, дык вось, мае ж вы бабачкі, наважылася я ехаць у той райсабес. Раненька ўправілася па гаспадарцы і пасунулася да Макрыц. Дарога гразкая, разбітая, як цыганскі воз. Вядома ж, восень.

Прайшла мо кіламетры са два, як раптам чую, нібы хто бяжыць за мною па лесе. Раз азірнулася, другі. Ажно бачу, воддаль мужчына нейкі малады, растрапаўшыся, прэцца. Без шапкі, куртка рашпілена. Адно шалік на шыі матляецца. Як убачыла я яго, то ледзь не самлела. Маньяк, думаю, за мной гоніцца, няйначай. Згвалціць — і пікнуць не паспееш. А потым задушыць гэтым самым шалікам ды пад корч які падапрэ. І мужык не знойдзе. Ды чорта ён і шукаць надта будзе. Вельмі іх нас, бабачкі, шукаюць, каб яны долі не знайшлі. Гэта мы за іх на шыбеніцу гатовы, а яны, нябось, не дурныя.

Разважаю так, а сама пру па лесе, як ласіха. Ажно пырскі з-пад ботаў ляцяць. Я бягу, і ён не адстае. Бягу і думаю:

— Каб жа толькі згвалціў, то чорт яго ўжо бяры. Не дзеўка нябось. Але ж як задушыць! І як бы раздваілася на гэтым мая душа. Адна палавіна кажа: моцна не бяжы, мо нічога страшнага і не будзе. Іншая за гонар палічыла б такога прыгожага маньяка сустрэць у нашай глушэчы. Ды каб ён гэтак за табой бег. А другая сваё: уцякай, бо задушыць. І гэта перамагла-такі. Хуткасць я не збавіла. Засаплася, замарылася, аж пара з мяне верне, як зімой з палонкі. А потым, бабачкі ж вы мае, як зачапілася за нейкі корч, ды як бразнулася вобзем. Проста ў гразь. Рукі як у таго негра, і панчоха падрана. Сумка чорт ведае куды адляцела. А тут і ён падбягае. Я падхапілася ды і кажу:

— Рабі, што хочаш, толькі не забівай!

А ён прыпыніўся і ўхмыляецца:

— Але ж вы, бабы, і дурныя ўсе. Я на аўтобус спазняюся, а ёй вунь што ў галаве. Ды ты паглядзі на сябе: на чорта падобная, якога толькі што выцягнулі з балота.

Сказаў так і далей пабег. А я дадому павалаклася. Мыцца. І панчоху новую зашываць. І пярэпалахі выкачваць у бабкі Марылі, якіх сама сабе нарабіла. Дурніца!

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

ФОТАІМГНЕННЕ





Фота Тадэвуша СЦЯПУРЫ

 

 



Газета Слонімская
5 — 11 жніўня 1999г., № 32 (113)

**Век XX, годы 80-ые. Сейчас их называют застойными. Те, кому тогда было по 17 лет, вряд ли согласятся с таким определением. Как доказательство, они расскажут о студенческих вечеринках, стройотрядах и поездках на картошку. На одной такой "картошке" и началась эта история.**

# РЫЦАРЬ?

Татьяне, выросшей в провинциальном городке, студенческая жизнь была новой и необычной. Работа вперемешку с веселыми разговорами — днем. Танцы в клубе под местный инструментальный ансамбль — вечером. Костер с песнями под гитару — до утра. Сплошная романтика, и ее достойный представитель — знаток удивительных песен, обладатель гитары и безупречных манер — Рыцарь. Этот почетный титул был присвоен ему единодушно за то, что каждый день проделывал он путь в 15 км из соседней деревни к своей Прекрасной Даме. Рыцарь ухаживал за ней уже 10 лет. С первого класса охранял, сидя за одной партой, и преданно доставлял ее драгоценный портфель в школу и обратно. Это была любовь, о которой мечтают все и которую любит испытывать судьба. Картошка была убрана, началась обычная студенческая жизнь: беззаботная, от сессии до сессии. Рыцарь по-прежнему оставался верен своей Прекрасной Даме, а Прекрасная Дама ждала ребенка. Тут бы быть веселой свадьбе, да родителям Рыцаря вдруг не по душе оказалась его избранница, а точнее — ее приданное. Их требование отказаться от нее Рыцарь оставил без внимания, а они оставили его без денег. Но дух рыцарства заразителен, а студенты народ азартный. Друзья заработали по ночам на обручальные кольца, белое платье и маленький пир. И была на том пиру Татьяна, предварительно засвидетельствовав брак в ЗАГСе. Верным ее спутником был Друг Рыцаря. Вчетвером они неразлучны были уже больше года. В семье Рыцаря родилась дочь, и его Прекрасной Даме стало трудно посещать занятия. Татьяна конспекты всех лекций писала под копирку. Как могла, помогала она подруге не забросить учебу. Трудности окончательно сдружили четверку, а к завершению учебы они дружили уже семьями.

Рыцарь, как и положено, ушел служить лейтенантом в армию. Прекрасная Дама должна была его ждать. Да только не сиделось ей у окна в ожидании милого. Видно не выдержала ее любовь очередного испытания судьбы. Рыцарь из любящего мужа превратился в ревнивца, и семейные ссоры стали делом обычным. Одну из таких ссор взялся улаживать Друг, отправившись к Рыцарю и Прекрасной Даме. Рыцарь был в наряде и, вернувшись утром, застал их в своей квартире. Ссора обернулась разводом. Не помогли ни заверения Прекрасной Дамы о том, что ничего не было, ни клятвы Друга. Татьяна пыталась помочь, не могла поверить в измену. Но не прошло и года, как семья Татьяны развалилась по той же причине. Только тогда она осмелилась спросить у бывшего мужа, что же произошло в ту ночь между ним и Прекрасной Дамой. Навсегда ей запомнился ответ: "То, что всегда происходит между нормальным мужчиной и женщиной."

Судьба развела Татьяну и Рыцаря в разные города. Они продолжали дружить, поздравляли друг друга с праздниками и подолгу разговаривали по телефону. Им, осколкам семей, было о чем поговорить. Прошли годы, они встретились в квартире Рыцаря и долго вспоминали первую "картошку". Весь вечер и всю ночь Татьяна чувствовала себя рядом с ним прекрасной дамой. А расставаясь, услышала: "Мы больше никогда не встретимся, прости!".

Через 17 лет после знакомства и через 10 лет после развода бывший Рыцарь "отомстил" бывшему Другу, добившись его бывшей жены. Через год он второй раз женился. Татьяна так и живет одна. Она точно знает — рыцарей больше нет!

Я понимаю, времена рыцарей и прекрасных дам прошли, но надеюсь, что скоро на пороге Татьяны с большим букетом в руках обязательно появится ОН! А что думаете о рыцарях Вы?

**Лариса ПЕТРОВА**




**ПОЧТА**

## БЕЗ ЛЮБВИ МЫ ПРИ ЖИЗНИ МЕРТВЫ

**В №23 "ГС" в рубрике "За чашечкой" автор статьи "Дождался" затронула тему безответной любви.**

Действительно, ничего нет на свете страшнее и мучительнее, чем любить и не быть любимым. Любовь — это лучшее, что дано человеку. Как бы там ни было, любовь преследует нас всех. Но мы не всегда можем встретиться с этим чудом жизни. Нерешительность, дикие нравы, неправильное формирование понятия о счастье и любви — это и есть главные пороки, главная преграда к счастью. Ничто в жизни не приходит даром. В жизни всё надо выстрадать, всё пережить.

Действительно, а как же быть с безответной любовью? Жить с нелюбимым человеком? Даже если тебя очень сильно любят, а ты не испытываешь никаких чувств, это уже не полноценная жизнь, с этим сердце смириться никогда не сможет. Сердцу хочется любить, хочется романтики, сказки и таинства. А нелюбимый при всём желании этого дать не может. Не поймёт его твоё сердце и пойдёт искать приключений. И имеет полное право на эти похождения. Никто не запретит любить. Никто не запретит искать свою заветную половинку, сотворимую Богом. Никто не может помешать человеку быть счастливым. Однажды декабрист Лунин сказал: "В этой жизни могут быть несчастны лишь глупцы и скоты". Значит мы сами творцы своего счастья.

Что касается героев нашей статьи, то мне их чисто по-человечески жалко. Они потеряли почти всю жизнь в поисках счастья, не зная, что оно ходит с ними рядом. И всё же, минуя унижения, слёзы горести и печали, они вместе, и жизнь подарила им крепкие и надёжные крылья любви.

**Татьяна СЕРГЕЕВА**

## ПУСТЬ БУДЕТ ТАК ВСЕГДА

**За чашечкой чая из трав, собранных мною нынешней весной, прочла статью Ларисы Петровой "Дождался".**

Статья, конечно же, умная, добрая, поучительная... Для какого-то отрезка времени, наверное, типичная, и, главное для меня, со счастливым концом. Но... лично я ни за что на свете не вышла бы замуж за человека, которого бы не любила! Даже если бы мои родители меня к этому принуждали. Хотя мои родители не пошли бы на такую "сделку" — у них другое мышление. Поэтому сказать мне от себя особо нечего, но нужно чаще повторять умные слова умных людей — это один из верных способов поумнеть самому. "Безответная любовь самая преданная", — считает главное действующее лицо романа "Тайны Парижа" Понсон дю Террайль.

А Т.Драйзер в романе "Титан" говорит устами своего главного героя: "Не смейтесь над муками неразделенной любви. У ревности ледяные объятия, цепкие, как объятия смерти".

Эти точки зрения имеют право на существование, а вот какая она самая верная для каждого отдельного человека — это строго индивидуально.

Пусть будет так всегда!

**Лилия ПРУДНИКОВА**

# АПЕЛЬСИН

Четырёхлетняя девочка, захлёбываясь, смеётся, нетерпеливо перебирая ножками, пока её бабушка, довольно улыбаясь, с поспешностью разламывает перед ней оранжевый апельсин. Рядом стоят две перегруженные авоськи. Вокруг никого.

Задержавшись у раскрытого окна, я провожаю глазами удаляющуюся в сторону своего дома счастливую пару.

Внучка медленно, будто на ощупь, передвигается сбоку от улыбающейся бабушки. Лицо у неё теперь сосредоточенное. В руках очищенный апельсин. Бабушка, не дойдя до своего подъезда, во второй раз останавливается, поправляет что-то в своих сумках и, не переставая улыбаться, целует внучку. Девочка щурит весёлые глаза и льнёт к бабушке. И мне показалось, что это была та минута, когда не может не посветлеть на душе у всякого, пусть даже нечаянно ставшего свидетелем этого обоюдного счастья.

И уж никак не мог я предположить, что вскоре буду вспоминать это, но уже по другому поводу и совсем с другим чувством...

Та же бабушка приближается к своему дому. Те же замедленные шаги, те же тяжёлые сетки. Лицо раскраснелось. На лбу взмокли с густой проседью волнистые волосы. Но вот вдруг её усталые глаза оживают, лицо озаряет уже знакомая мне улыбка. Со всех ног к ней бежит её "солнышко". Присев, бабушка уже была готова подхватить свою внучку на руки, но та с разбегу кинулась сначала к одной, затем к другой сетке, с необычайной расторопностью пошарила в них и подняла на бабушку большие голубые, ещё недавно брызжущие радостью, глаза. Можно было только удивляться выразительности этих внезапно ставших чужими глаз.

Бабушка поспешила что-то шепнуть внучке, привлечь к себе, но та, опустив глаза, вырвалась и капризно передёрнула плечиками...

Свой путь от подъезда, с обычными остановками для отдыха, бабушка проделала уже в одиночестве. На её лице была растерянность. Внучка ни разу не взглянула в её сторону. Мне показалось, что внутри у меня что-то дрогнуло. И почему-то о том большом оранжевом апельсине я подумал с неприязнью... Неужели на него променяли добрые бабушкины руки...

**Геннадий ПАШКО**

**ЭТИКЕТ**

# К ВАМ ПРИШЛИ ГОСТИ

Вы гостеприимные люди и часто устраиваете застолья. Но каждый раз перед приходом гостей встаёт вопрос: что лучше надеть — вечернее платье или скромный наряд.

Мужчинам, как всегда, и сложнее, и проще. Деловой завтрак, официальный обед или ужин — ничего не поделаешь, нужен костюм. В менее официальных случаях вместо пиджака вполне допустим вязаный пуловер или жилет (только не от костюма). Уместны также рубашки из плотных тканей — вельвета, льна.

Женщина может позволить себе пофантазировать относительно домашнего наряда для приёма гостей. Но есть одно общее правило: туалет хозяйки должен быть неброским, чтобы даже скромно одетые гости не чувствовали себя неловко. Украшений немного, ничего кричащего и дорогого. Одежда предпочтительнее свободного покроя, чтобы хозяйке было удобно менять тарелки, подавать блюда. Выбор костюма также зависит от времени приёма гостей, их количества, от жанра застолья. Итак: вы готовитесь к дневной официальной встрече:

— можно надеть брюки или мягкую длинную (полудлинную) юбку. Они хорошо сочетаются с блузой романтического или рубашечного покроя — кому что идёт.

— пёстрые юбки любят соседство одноцветных блуз, и наоборот.

— туфли могут быть изящными, на небольшом каблуке или простые лодочки.

— подбирать вещи нужно так, чтобы вы могли носить их в разных комбинациях, особенно если одних и тех же людей приходится принимать часто.

Званый обед или вечерний приём предполагает более строгий стиль:

— одежду лучше подбирать из однотонных тканей.

— можно надеть украшения, нарядную обувь.

Если приём не официальный, уместен домашний нарядный костюм в фольклорном стиле. Но такие ансамбли требуют от женщины соблюдения чувства меры — иначе можно выглядеть излишне театрально. Ещё одна важная деталь: к фольклорному костюму трудно подобрать обувь.

 

